ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 30 (2484) 25 ліпеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ЛЕАНІД ЛАПЧЫНСКІ -- МАСТАК, ЯКОГА НЕ ВЕДАЛІ ПРЫ ЖЫЦЦІ



# ЯГО СПАДЧЫНА НАЛЕЖЫЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

"Прыйшоў час, калі ціхія, але шчырыя галасы творцаў пачынаюць гучаць усё мацней і мацней. Імя Леаніда Лапчынскага пры жыцці нейкім чынам было ў цяні "вялікіх жывапісцаў". Часам вялікіх не па значнасці твораў, а хутчэй вялікіх па памерах палотнаў ды значнасці тэмаў (рабочы клас, будаўнікі камунізму і г.д.). І вось пасля доўгага перапынку, на жаль, ужо калі не стала мастака, глядач зноў убачыў творы Лапчынскага і быў прыемна здзіўлены.

На выставе, якая адбылася ў Палацы мастацтва ў сакавіку месяцы 1995 года, можна было ўбачыць яго творы: "Раніца", "Ноч", "Верхні горад", "Пейзаж з р[illegible]дай".

Нечакана [illegible]ваму ўспрынята гэтае імя. Першае, што прыйшло на думку, -- гэта ўсведамленне: як позна даходзіць да нас, што побач з намі, тут, непадалёку, жыў і тварыў такі цікавы чалавек, а мы яго нібы і не заўважалі.

Мастак Лапчынскі ні ад кога не залежаў. Ён тварыў так, як падказвала яму яго сэрца і яго інтэлект. Вы не ўбачыце ў творчасці Лапчынскага кан'юнктурных прац. Так бы мовіць, "на злобу дня". Ён цікавы тым, што, гаворачы сам з сабою, на мове сваёй палітры, вёў ціхі дыялог з гледачом, які разумеў яго.

-- Божа! -- думаў я, -- каб такі творца жыў у Эстоніі, Літве ці Латвіі, аб ім пры жыцці ўжо складалі б цэлыя манаграфіі, пісалі кнігі. У нас, на жаль, усё не так. Мы не заўважаем ці не хочам заўважаць сапраўднага мастацтва, сап[illegible]днага творцу, які пры жыцці не м[illegible]астаяць за сябе.

Леанід Лапчынскі, яго мастацтва вартае высокай адзнакі суайчыннікаў, пільнай увагі мастацтвазнаўцаў. Яго краявіды "Вясновы дзень", "Бярозы", "Дарога праз Жыровічы", шэраг партрэтаў, пісаныя прыглушанымі, вытанчанымі фарбамі начы, даюць неабсяжны прастор для фантазіі, грэюць душу і сэрца. Тонкае адчуванне каларыту, каляровых адносінаў, з якіх саткана палатно Лапчынскага, яго арыгінальна-пластычная мова даюць поўнае ўяўленне аб мастаку, якога не зблытаеш ні з кім іншым. Тая спадчына, што засталася пасля жыцця мастака, належыць не толькі блізкім яго людзям, але і ўсёй Бацькаўшчыне, якая ўзрасціла такога творцу".

**Такой думкі пра Леаніда Лапчынскага вядомы мастак Алесь МАРАЧКІН.**

**(Пра творчы лёс Л.Лапчынскага чытайце на 7-й стар. ).**

**ДА ТАГО, ШТО БЫЛО АПУБЛІКАВАНА**

# "НЕ ВЕР ДРЭННАМУ ПРА МЯНЕ"

**24 лістапада 1994 года на старонках нашай газеты быў надрукаваны артыкул гісторыка І. Кузняцова "Паўстанне ў лагеры", які з хранікальнай падрабязнасцю асвятліў трагічныя падзеі паўстання вязняў аднаго з паўночных канцэнтрацыйных лагераў у 1940 годзе. Арганізатарам і кіраўніком паўстання разам з іншымі з'яўляўся былы нарком асветы БССР У. Півавараў. Менавіта гэты артыкул падштурхнуў на пошукі дадатковых звестак аб гэтым чалавеку, яго жыцці, імкненнях, рысах характару. Ніжэй -- тое, што ўдалося знайсці аб ім у архівах, друку, успамінах яго дачкі.**

Масавыя рэпрэсіі 30-х гадоў знішчылі ўсіх наркомаў асветы БССР, якія паслядоўна змянялі адзін аднаго на гэтай пасадзе на працягу двух дзесяцігоддзяў пасля 1918 года. Першы нарком -- У. Ігнатоўскі не вытрымаў цкавання і скончыў жыццё самагубствам, другі -- А. Баліцкі -- рэпрэсіраваны ў 1930-м і расстраляны ў 1937 годзе, наступныя -- А. Платун, А. Чарнушэвіч, М. Арабей, А. Дзякаў, А. Варончанка, У. Півавараў -- у розны час перыяду 30-х гадоў. На пасадзе наркомаў ім даваўся працаваць ад некалькіх гадоў да аднаго, а некаторым нават некалькі месяцаў.

Уладзімір Іванавіч Півавараў атрымаў назначэнне на гэту пасаду 21 кастрычніка 1937 года, а 2 ліпеня 1938 года быў ужо арыштаваны па абвінавачванню ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Ён з'яўляўся прадстаўніком той новай савецкай інтэлігенцыі, неабходнасць стварэння якой настойліва патрабавала савецкая ўлада, аднак, стварыўшы яе, -- знішчала.

Нарадзіўся У. Півавараў 4 красавіка 1904 года ў в. Семінаўка Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Яго бацькі -- Іван Рыгоравіч і Хрысціна Нічыпараўна жылі на хутары і займаліся сельскай гаспадаркай. Акрамя Валодзі, мелі яшчэ двух сыноў і дачку. Сям'я жыла дружна, і дзеці, з узростам, імкнуліся ва ўсім дапамагчы бацькам.

Трагічныя 30-я--40-я гады забралі ўсіх сыноў. Старшы памёр ад ран у пачатку Вялікай Айчыннай вайны, рэпрэсіі знішчылі сярэдняга -- Уладзіміра, малодшы загінуў у нямецкім канцлагеры пад Мінскам.

**(Працяг на 3-й стар.).**

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-96"



**Восем ліпеньскіх дзён і начэй працягваўся "Славянскі базар". У яго праграме былі конкурсы маладых выканаўцаў і дзіцячых шоу-праграм, фестывалі славянскага кіно і прэсы, "Міс славянка" і "Ноч гумару", шматлікія выставы, канцэрты, шоу і мноства іншых мерапрыемстваў. У рамках "Базару" прайшлі, па сутнасці, творчыя справаздачы майстроў мастацтваў Беларусі, Украіны і Расіі. Гэта лепшы доказ таго, што Еўрапейская асацыяцыя фестываляў ФІДОФ, якая аб'ядноўвае 1 600 фестываляў свету і членам якой з'яўляецца "Славянскі базар", не памылілася, уключыўшы на сваёй апошняй сесіі віцебскі форум у пяцёрку найбуйнейшых музычных падзей свету.**

**Цудоўным заключным акордам цырымоніі закрыцця фестывалю стала яго апошняя сенсацыя. Прэзідэнт міжнароднай карпарацыі "Славянскі базар" Сяргей Віннікаў паведаміў аб рашэнні Міжнароднага зорнага рэестра прысвоіць нядаўна адкрытаму сузор'ю імя "Славянскі базар". Яно размешчана на паўночным паўшар'і і складаецца з 11 зорак, названых у гонар 11 славянскіх дзяржаў -- найбольш актыўных удзельніц фестывалю.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАЛІТЫЧНЫ АЛІМП*

## ВІЗІТ А. ЛУКАШЭНКІ Ў ФРАНЦЫЮ



11--13 ліпеня адбыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Французскую Рэспубліку. Вось як ацэньвае яго сам Прэзідэнт:

-- У палітычным плане я вельмі задаволены вынікамі візіту ў Францыю. З Прэзідэнтам Францыі Жакам Шыракам праведзены даволі змястоўныя перагаворы, падпісаны асноватворны Дагавор аб дружбе, узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі. Гэта першы такі шырокамаштабны дагавор, які Беларусь падпісала з заходняй дзяржавай. Цяпер створана юрыдычная аснова далейшага развіцця супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў з улікам узаемных інтарэсаў. Сустрэчы ў Парыжы далі падтрымку развіццю кантактаў Беларусі з Еўрапейскім Саюзам, Саветам Еўропы.

Добрыя вынікі паездкі і ў галіне эканомікі. Падпісана адразу некалькі буйных кантрактаў, адпрацавана пытанне аб адкрыцці крэдытнай лініі на суму 200--300 мільёнаў долараў ЗША. Перакананы, што гэты інвестыцыйны праект будзе ажыццёўлены і стане своеасаблівым "прарывам" Беларусі ў галіне прыцягнення ў сваю эканоміку буйнога замежнага капіталу.

Я ўжо гаварыў у сваіх выступленнях аб намеры пр[illegible]ці ў рэспубліцы рэферэндум па змяненню асобных па[illegible]нняў Канстытуцыі. Вельмі многія нормы ў новай рэдакцыі Асноўнага Закона запазычаны з французскай Канстытуцыі. Таму дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі было карысна ўбачыць французскую дэмакратыю ў дзеянні.

За дзень да пачатку візіту вядомыя нашы палітычныя сілы ініцыіравалі ў адной з французскіх [illegible]ет публікацыю, у якой чарговы раз абліты брудам [illegible]арусь, яе народ і Прэзідэнт. Шчыра кажучы, чакаў з боку кіраўнікоў Францыі пытанняў, звязаных з фарміраваннем за мяжой негатыўных адносінаў да Беларусі. Аднак, на дзіва, ні Прэзідэнт Францыі Жак Шырак, ні французскія бізнесмены і банкіры нават не спрабавалі закрануць гэтую тэму. Я сам паставіў гэта пытанне ў гутарцы з кіраўніком Францыі. Ён выразна даў зразумець, што разглядае адносіны паміж дзяржавамі не праз тэлеперадачы ці газетныя публікацыі, а непасрэдна зыходзячы з рэальна праводзімай палітыкі.

Не ўтаю, знаходзячыся ў Парыжы, мне было вельмі непрыемна даведацца, што група нязбытных у Беларусі палітыкаў, якая "эмігрыравала" за мяжу, спрабавала ачарніць нашу рэспубліку ў вачах французаў. Шэраг апазіцыянераў нават спрабавалі прыехаць у Парыж з Мінска з мэтай правядзення антыпрэзідэнцкіх акцый, але ім не выдалі ўязныя візы, за што я вельмі ўдзячны.

Знаходзячыся ў Францыі, вечарамі, пасля цяжкай і напружанай работы, неаднаразова задаваў сабе пытанне: што прымушае апазіцыянераў абліваць брудам сваю радзіму? Гэтым яны робяць горш не аднаму толькі Лукашэнку, а ўсяму народу рэспублікі...

Напярэдадні візіту Жак Шырак інфармаваў мяне аб падыходах краін "вялікай сямёркі" да ідэі еўрапейскай інтэграцыі. Мне было вельмі прыемна ўбачыць многа агульнага ў канцэпцыях еўрапейскай інтэграцыі і збліжэння дзяржаў СНД у рамках саюзаў Беларусі і Расіі, а таксама Беларусі, Расіі, Казахстана і Кіргізіі. У ходзе перагавораў прэзідэнт Францыі вітаў інтэграцыйныя працэсы, якія пачаліся ўнутры Садружнасці. Жак Шырак не бачыць у заключаных, як на двух-, так і на чатырохбаковай аснове саюзніцкіх дагаворах ніякіх "пагроз суверэнітэтам". Што датычыць французскіх бізнесменаў, то яны нават шкадавалі наконт развалу таго велізарнага адзінага рынку, якім быў Савецкі Саюз. Многія вядучыя банкіры і прамыслоўцы Францыі ў свой час мелі цесныя адносіны з СССР, і ў іх выступленнях выразна прасочвалася настальгія па ранейшых часах. Безумоўна, размова ішла аб настальгіі ў эканамічным плане.

Цікавасць да Беларусі з боку прэзідэнта Францыі і дзелавых колаў гэтай краіны можна назваць вельмі вялікай. У тым ліку і таму, што наша рэспубліка з'яўляецца часткай адзінай мытнай прасторы. У Парыжы разумеюць: стварыўшы сумесную вытворчасць у Беларусі, можна паспяхова збываць прадукцыю ў Расіі, Казахстане, Кіргізіі.

Прэзідэнт Францыі прыняў маё запрашэнне наведаць Мінск. Магчыма, паездка адбудзецца даволі хутка. У галіне палітыкі ў нас пачаўся актыўны, добразычлівы дыялог, і да прыезду Жака Шырака ў Беларусь, не выключана, што паміж нашымі краінамі ў мэтах развіцця асноўнага Дагавора аб дружбе будзе падпісана некалькі пагадненняў...

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнта Беларусі А.ЛУКАШЭНКІ з Прэзідэнтам Францыі Ж.ШЫРАКАМ.**

*МАЕМ СВАЁ*

## "ПАЛЕССЕ-РОТАР"

**Аб'яднанне "Гомсельмаш" завяршыла праектныя работы па стварэнню першага беларускага збожжаўборачнага камбайна ротарнага тыпу "Палессе-Ротар". Выпрабаванні новай машыны пачнуцца ў канцы ліпеня.**

**Гомельскі камбайн вагой 14,7 тоны, хаця крыху і цяжэйшы за расійскі "Дон-1500", але ў параўнанні з ім мае ў 1,5 раза ніжэйшае ўздзеянне хадавой сістэмы на ворны слой і ў столькі ж разоў ніжэйшую матэрыялаёмістасць.**

**Спецыялісты лічаць, што агульная эканомія ад набыцця рэспублікай айчынных збожжаўборачных камбайнаў складзе 3,2 мільярда рублёў, а эфект ад парка 500 машын дасягне каля 4,5 трыльёна рублёў.**

*ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ*

## ПРЫТОК СКАРАЧАЕЦЦА

**Аб'ём замежных інвестыцый у Беларусі ў першым паўгоддзі бягучага года склаў 15,7 мільёна долараў.**

**За гэты перыяд зарэгістравана ўсяго 77 прадпрыемстваў з замежным капіталам. Прыпыненне рэгістрацыі з 6 лютага 1996 года прадпрыемстваў з замежным капіталам прывяло да скарачэння прытоку інвестыцый у эканоміку і выклікала занепакоенасць замежных інвестараў, адзначаюць спецыялісты Мінзнешэкаомсувязей. Па папярэдніх падліках, Беларусь недаатрымае да жніўня бягучага года 50 мільёнаў долараў замежных інвестыцый.**

*СЛЫННАМУ ПАЎЛУ СУХОМУ*



**Своеасаблівы помнік славутаму авіяканструктару Паўлу Сухому адкрыты ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. Тут устаноўлены самалёт яго канструкцыі славуты "СУ".**

**Летась адзначалася 100-годдзе П.Сухога, які нарадзіўся ў горадзе Глыбокае ў сям'і настаўніка народнага вучылішча. Наш суайчыннік працаваў разам з вядомым авіяканструктарам А.Тупалевым і канструктарам касмічных караблёў С.Каралёвым. За сваё жыццё П.Сухі стварыў 50 арыгінальных самалётаў, больш за 30 з іх былі выраблены і выпрабаваны.**

**НА ЗДЫМКУ: славуты "СУ" Паўла Сухога ўстаноўлены пры ўездзе ў Глыбокае.**

*ЗМАГАЕМСЯ ЗА ДЗЯЦЕЙ*

## "АЎТОГРАФ ЧАРНОБЫЛЯ"

**Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала Беларускае таварыства "Аўтограф Чарнобыля". Таварыства аб'ядноўвае бацькоў дзяцей, якія прааперыраваны з выпадку раку і адэномы шчытападобнай залозы. Галоўнай мэтай стварэння БТБ "Аўтограф Чарнобыля" з'яўляецца абарона фізічнага і псіхічнага здароўя, правоў і законных інтарэсаў дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Старшынёй таварыства абрана Людміла Кажэнава.**

*РЭГЛАМЕНТАЦЫЯ*

## АБРОЦЬ ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ БАНКАЎ

**Нацыянальны банк Беларусі (НББ) зацвердзіў Часовае палажэнне аб парадку стварэння, рэгістрацыі і спынення дзейнасці замежных банкаў, іх філіялаў, прадстаўніцтваў і банкаў з удзелам замежнага капіталу на тэрыторыі Беларусі.**

**У дакуменце адзначаецца, што банк атрымлівае статус сумеснага пры дасягненні не менш 20 працэнтаў сукупнай долі замежнага капіталу ў статутным фондзе.**

**Статутны фонд банка павінен пры гэтым фарміравацца за кошт сродкаў не менш чым трох удзельнікаў.**

**Ліцэнзія на прыцягненне ва ўклады сродкаў фізічных асоб можа быць выдадзена банку толькі пасля сканчэння двух гадоў з моманту рэгістрацыі ў НББ пры ўмове яго ўстойлівага фінансавага становішча.**

*РАСПРАЦАВАНА КАНЦЭПЦЫЯ*

## МІНСК -- ГОРАД ПАРТОВЫ

**Ва Упраўленні воднага транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый распрацавана канцэпцыя развіцця беларускага марскога флоту.**

**Ужо завершана тэхнічнае заданне на праектаванне і будаўніцтва самаходных суднаў прыбярэжнага плавання класа рака-мора, выпуск якіх гатовы пачаць на Гомельскім суднарамонтна-суднабудаўнічым заводзе -- адным з чатырох беларускіх прадпрыемстваў такога профілю.**

**Распрацаваны таксама рэестр будучых марскіх суднаў Беларусі. Портам іх прыпіскі стане сухапутны Мінск, а гэта зусім не унікальны факт: звыш 36 кантынентальных дзяржаў маюць свой флот.**

*НАШЫ ЗА МЯЖОЙ*

## БЕЛАРУСКІЯ МАГІСТРЫ

**Першыя магістрам эканамічных навук выпуску 1996 года стаў на факультэце знешняга гандлю Гданьскага універсітэта ў Польшчы студэнт з Беларусі Аляксандр Мароз. Выпускнік Гожскай сярэдняй школы Гродзенскага раёна, ён паспяхова закончыў эканамічнае аддзяленне і абараніў дыпломную працу аб ролі ЭКЮ ў міжнароднай валютнай сістэме.**

**Неўзабаве яшчэ чацвёра калег А. Мароза атрымаюць магістарскія званні і стануць прафесіянальнымі эканамістамі. А зямляк Аляксандра Іван Гайдэль -- адзіны прадстаўнік Беларусі на гістарычным факультэце -- стаў магістрам гістарычных навук.**

**Гэта першы выпуск беларускіх студэнтаў у гданьскім універсітэце. А ўсяго сярод 15-тысячнага атрада студэнтаў гэтай навучальнай установы сёння займаецца каля 50 нашых землякоў.**

*СТАРТ ДАДЗЕНЫ*

## "ФОРД" З'ЯВІЦЦА ПРАЗ ГОД

**У Абчаку, прыгарадзе Мінска, 18 ліпеня адбылася афіцыйная цырымонія пачатку будаўніцтва завода кампаніі "Форд Юніён". Практычная рэалізацыя праекта даручана арэнднаму прадпрыемству "Мінскпрамбуд".**

**Кошт першага этапа будаўніцтва складае 3,4 мільёна долараў. К канцу гэтага года будуць пракладзены інжынерныя камунікацыі, падрыхтаваны офісныя і вытворчыя памяшканні. Мяркуецца, што ў чэрвені 1997 года будуць сабраны першыя малалітражкі серыі "Эскорт" і мікрааўтобусы "Транзіт". У бліжэйшыя месяцы кампанія пачне набор персаналу для работы на заводзе. У верасні камбінезоны з эмблемай "Форд" змогуць апрануць каля ста чалавек, аднак да пачатку прамысловай эксплуатацыі завода іх колькасць павінна ўзрасці ў некалькі разоў. Акрамя таго, кіраўніцтва кампаніі вядзе актыўную работу па размяшчэнню заказаў на выраб камплектуючых для "Форда" на беларускіх прадпрыемствах.**

*ВЫСОКІЯ СТАНДАРТЫ*



**Ёсць у Маладзечне незвычайнае для горада прадпрыемства, якое выпускае вельмі дэфіцытную прадукцыю -- медыцынскі інструментарый. Называецца яно "Струм". Усяго ў пераліку выпускаемых тавараў -- да 300 назваў. Штомесяц спецыялісты прадпрыемства выпрабляюць 10--12 тысяч адзінак медыцынскага інструментарыя, які абыходзіцца заказчыку ў пяць-сем разоў танней за заходнія і на 30 працэнтаў танней за аналагі, што вырабляюцца ў Расіі. Восемдзесят працэнтаў выпускаемай прадукцыі "Струм" пастаўляе медыцынскім установам нашай рэспублікі і толькі дваццаць экспартуе ў Расію, Украіну, краіны Балтыі.**

**Інструментарый, што выпускае "Струм", вызначаецца высокай якасцю, не саступае еўрапейскім стандартам.**

**НА ЗДЫМКУ: камплектоўшчыца завода "Струм" Аксана МАРОЗ.**

## "КУПАЛЬСКАЯ КВЕТКА"






**Калі меркаваць па колькасці розных кірмашоў, базараў ды фестываляў, можа падацца, што беларусаў не надта турбуе ні затрымка зарплат і пенсій, ні крызісны стан нашай эканомікі. Вось і ў пасёлку Бярэзінскім Маладзечанскага раёна прайшло свята "Купальская кветка-96". Упрыгажэннем яго сталі выступленні лепшых самадзейных калектываў. На свяце, як і заведзена, былі госці з Расіі, Малдовы, Украіны, з якімі маладзечанцы падтрымліваюць дзелавыя адносіны. Нягледзячы на цяжар жыцця, умее наш народ весяліцца.**

**НА ЗДЫМКАХ: хлеб-соль удзельнікам свята ўручвае старшыня райвыканкома Пётр КУЛЕШ; самадзейныя артысты Света КОЗЕН і Іван ІЛЫН; ля гандлёвых радоў.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**




**КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ**

## ЮБІЛЕЙ КАФЕДРЫ

У Гайнаўцы адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 40-годдзю існавання кафедры Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У ёй прынялі ўдзел вядомыя вучоныя, настаўнікі, прадстаўнікі культуры Польшчы, іншых краін. На канферэнцыі прысутнічала дэлегацыя з Беларусі. Сярод беларускіх гасцей былі вядомыя навукоўцы Леў Шакун, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Лазоўскі, Васіль Літвінка, дырэктар выдавецтва "Беларусь" Мікалай Кавалеўскі і іншыя. Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі шырокае кола праблем, звязаных з развіццём беларускай мовы і літаратуры, з іх выкладаннем і вывучэннем у Польшчы, пашырэннем кантактаў паміж вучонымі, выкладчыкамі, дзеячамі культуры нашых краін.

Галоўным арганізатарам і кіраўніком канферэнцыі быў загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Госці з Беларусі мелі сустрэчы ў Генеральным консульстве Беларусь у Беластоку.

**ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ**

## ДЗЯКУЙ ЗА ВАШУ ПРАЦУ!

Атрымаўшы сёння чарговы нумар газеты, я даведаўся аб новым адрасе, па якім можна дасылаць ахвяраванні на "Голас Радзімы" ад беларусаў, што пражываюць за межамі сваёй Радзімы.

Я толькі што, учора, адаслаў 10 000 рублёў па старому адрасу.

Некалькі слоў аб "Голасе Радзімы".

Люблю сваю Радзіму, дзе прайшло маё дзяцінства і сталасць, а дзякуючы вашай газеце я яшчэ бліжэй духам і сэрцам з Бацькаўшчынай. Таму кожны нумар чакаю. Чытаю ад пачатку і да канца. Многае, што гаворыцца аб Беларусі па расійскаму радыё або тэлебачанні, друкуецца ў прэсе, асвятляе толькі адзін бок жыцця нашай дзяржавы -- з боку гледжання Расіі. А вось у "Голасе Радзімы" мы чытаем і тое, што думае, з чым згаджаецца і не згаджаецца беларускі народ. Тым больш, праз газету мы даведваемся многа таго, што нам раней "непатрэбна" было ведаць (забаранялася).

Дзякуй вам за вашу працу! Вы адзіная крыніца, якая нясе весткі з Радзімы на маёй роднай мове.

З павагаю!

**Ваш чытач Уладзімір ГОВАР.**

г. Кохма, Расія.

# "НЕ ВЕР ДРЭННАМУ ПРА МЯНЕ"

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Валодзя рос здольным да вучобы, асабліва да матэматыкі і фізікі. Паспяхова скончыўшы сямігодку, ён у 1923 годзе паступіў у Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, дзе навучалася амаль выключна сельская моладзь. Студэнты ўдзельнічалі ў шмат якіх гуртках, наладжвалі літаратурныя вечары, дзе гучалі вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. У. Півавараў таксама прымаў у іх удзел і падумаць не мог, што захапленне творамі вялікіх паэтаў будзе расцэнена ў будучыні, як контррэвалюцыйная нацдэмаўская дзейнасць.

Пасля заканчэння педтэхнікума ў 1925 годзе непрацяглы час працаваў настаўнікам фабрычнай школы, загадчыкам аддзела народнай асветы Мазырскага райвыканкома.

Апошняя праца не вельмі задавальняла, хацелася вучыцца далей, асабліва прыцягвалі фізіка-матэматычныя веды. таму ў 1927 годзе У. Півавараў падаў дакументы на фізіка-матэматычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта і без іспытаў быў залічаны на другі курс. Вучыўся з вялікім жаданнем, за выдатныя поспехі неаднаразова чуў у свой адрас пахвалу ад выкладчыкаў фізікі і матэматыкі, атрымліваў ад іх дадатковыя, больш складаныя заданні і настойліва над імі працаваў. 1929-ты год прынёс змены ў яго сямейны стан. Знаёмства са студэнткай гістарычнага факультэта БДУ Яўгеніяй Вігура прывяло іх да шлюбу, а 9 снежня гэтага ж года сям'я павялічылася яшчэ на аднаго чалавека -- нарадзілася дачка, якую назвалі Кларай.

Шмат гадоў пазней Клара Уладзіміраўна са слоў маці пісала: "Жылі на дзве стыпендыі, плюс бацька маці прысылаў 6 рублёў у месяц. Аб ежы, адзенні думалі мала, не бачылі ў гэтым сэнсу. Сэнс складала вучоба і маленькая дачка. Тата мяне вельмі любіў, ва ўсім дапамагаў маці па дому".

У 1930 годзе У. Півавараў з выдатнымі адзнакамі скончыў вучобу і быў накіраваны выкладчыкам матэматыкі ў Камуністычны універсітэт, які знаходзіўся ў Мінску. Адначасова ён паступіў у аспірантуру Беларускай акадэміі навук па спецыяльнасці геафізіка і па сумяшчальніцтву стаў працаваць у ёй малодшым навуковым супрацоўнікам.

Лабараторная база акадэмічных інстытутаў у той час яшчэ толькі складалася, і шмат па якіх навуковых накірунках даводзілася звяртацца па кансультацыю ў вядучыя навуковыя цэнтры Масквы і Ленінграда. Там жа навучаліся шмат хто з аспірантаў-беларусаў.

Тэма, над якой працаваў У. Півавараў, патрабавала ад яго спецыяльных ведаў па геафізіцы, а значыць працы з новай літаратурай у добра абсталяваных лабараторыях. Гэтага пакуль што не мела Беларуская акадэмія навук. Таму ў 1932 годзе У. Піваварау быў прадоўжаны тэрмін навучання ў аспірантуры, і ён накіраваўся ў Ленінградскі інстытут сейсмалогіі. З сярэдзіны 1933 года пачалася ўпартая эксперыментальная праца ў інстытуце, бібліятэках Ленінграда, а потым Масквы, куды ў 1935 годзе перавёўся інстытут сейсмалогіі.

1936 год для Уладзіміра Іванавіча быў вельмі цяжкім, але і шчаслівым. Ён завяршыў працу над дысертацыяй, паспяхова абараніў яе і вельмі радаваўся доўгачаканаму вяртанню дамоў. У гэтым жа годзе ён разам з сям'ёй прыехаў у Мінск і атрымаў пасаду старшага навуковага супрацоўніка ў Фізіка-тэхнічным інстытуце АН БССР. Яго чакала цікавая навуковая праца, да якой імкнуўся ўсе гады, выхаванне ўжо трох дзяцей у дружнай і шчаслівай сям'і. Па словах Клары Уладзіміраўны, жылі скромна. "Я памятаю шмат кніг прама на падлозе, самаробны стол з чатырма дошчачкамі замест ножак (за ім папа займаўся), памятаю, як доўга чакалі пакупкі кухоннага стала, замест яго стаяла тумба, і не было куды дзяваць ногі. Папа адчуваў сябе ў гэты час вельмі шчаслівым. Ён меў магчымасць займацца любімай навукай і аддаваўся ёй з усёй душой. Быў цудоўным сем'янінам. Быў адданы ідэям сацыялізму, з 1931 года знаходзіўся ў складзе КП(б)Б, верыў савецкай уладзе і яе палітыку прапамляў праз сваё жыццё".

Аднак ні вера ў ідэі сацыялізму, ні самааддданая праца не стрымлівалі савецкую ўладу ў яе абсурдным імкненні знішчыць тое, на што яна абапіралася. 30-я гады -- самыя трагічныя для беларускай інтэлігенцыі. У гэты час рэпрэсіі знішчылі амаль усю дарэвалюцыйную інтэлігенцыю і вялікую частку новай, савецкай.

Восенню 1937 года пасля расправы над чарговым наркомам асветы А. Варончанкам, гэта пасада зноў аказалася свабоднай. Паўстала пытанне аб назначэнні новага наркома. ЦК КП(б)Б прапанаваў



партыйнай арганізацыі АН БССР вылучыць на гэта месца аднаго з супрацоўнікаў акадэміі -- вылучылі У. Піваварава.

Ён настойліва адмаўляўся ад пасады наркома. Па-першае, вельмі не хацеў пакідаць навуковую дзейнасць, па-другое, не любіў адміністрацыйную працу і ўсяляк яе пазбягаў. Да таго ж Уладзімір Іванавіч, безумоўна, ведаў аб лёсах папярэдніх наркомаў і разумеў, чым можа скончыцца яго новы шлях. Аднак, калі на пасаду накіроўвалі партыйныя органы, адмовіцца было амаль што немагчыма, гэта расцэньвалася, як непадпарадкаванне партыйнай дысцыпліне і каралася. У. Півавараў быў вымушаны даць згоду і 21 кастрычніка 1937 года стаў наркомам асветы БССР.

За новую працу ўзяўся з уласцівай яму настойлівасцю і адказнасцю. Вывучаў спецыяльную літаратуру па педагогіцы, звяртаўся да сяброў і калег за парадамі, унікаў ва ўсе дэталі практыкі навучання і выхавання. Рэдкія дні адпачынку праводзіў разам з сям'ёй. Па словах яго дачкі, гэта былі самыя радасныя хвіліны. "Бацькі рэдка бывалі свабоднымі, бо шмат працавалі. Самыя цудоўныя ўспаміны засталіся ў мяне з дзяцінства аб тых сумесных гадзінах, калі мы ўсёй сям'ёй ездзілі ў дом адпачынку Прылукі на выхадны дзень. Там была прыгожая прырода, прастор, у доме вялікі хол, доўгі стол у агульнай сталовай. Памятаю, як нехта папрасіў бацьку спець і ён заспяваў "Як пайду я полем, лугам, дзе мой мілы арэ плугам".

Ішоў 1938 год, і рэпрэсіўная машына працавала, як ніколі, бязлітасна і метадычна. Прыкладамі так званай дзейнасці "ворагаў народа" стракацелі газеты і часопісы, паведамляла радыё, іх прозвішчы гучалі на агульных сходах працоўных. Ішлі бясконцыя чысткі, праверкі, і як вынік -- паток дакладных, паведамленняў, матэрыялаў, у якіх выяўляліся ўсё новыя "шкоднікі".

Уладзімір Іванавіч адчуваў, як нагнятаецца атмасфера страху і падазронасці ў наркамаце. Клара Уладзіміраўна ўспамінала, што ў доме, дзе яны жылі, "кожную ноч каго-небудзь арыштоўвалі і вывозілі. Арыштавалі бацькоў маіх сяброўак Маргелавых, засталіся дзве дзяўчынкі Нона і Яніна, іх забралі ў дзіцячы дом. Аднойчы памылкова прыйшлі да нас, бацька выйшаў у калідор, строга сказаў ім нешта, а яны ў адказ -- "Маўчы! Хутка і за табой прыйдзем!" Усё гэта прыгнятала бацьку, ён адчуваў, што хмары згушчаюцца і над ім..."

**Ніна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**НА ЗДЫМКУ: У. ПІВАВАРАЎ з жонкай Яўгеніяй.**

**(Заканчэнне будзе).**

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ





**У самым цэнтры Беластока, на вуліцы Ліпавай, знаходзіцца адзін з цікавейшых помнікаў архітэктуры горада -- царква св. Мікалая. Яе будаўніцтва пачалося ў 1843 годзе на месцы былой уніяцкай царквы, і ўжо праз тры гады была асвячона на служэнне праваслаўю.**

**Царква св. Мікалая -- галоўная праваслаўная святыня Беласточчыны. Нядаўна ўрачыста адзначаны 150-гадовы юбілей сабора.**

**НА ЗДЫМКАХ: царква св. Мікалая ў Беластоку; ля галоўнага алтара сабора.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

МІЖНАРОДНЫ РАЗМАХ

# ПЕРШЫЯ ДЗІСЕНСКІЯ ЧЫТАННІ

У Беларусі добра ўжо вядомыя "Браслаўскія чытанні", якія адбыліся ў 1989, 1991 і 1994 гадах. А нядаўна ўпершыню ў Мёрах прайшлі "Дзісенскія чытанні", якія арганізавалі Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча (узначальвае Міхась Райчонак), Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага фонду Сораса, Мёрскі гісторыка-краязнаўчы музей, Народны музей СШ N 3 г. Мёры, Аддзел культуры Мёрскага райвыканкома.

На "Дзісенскія чытанні" прыехалі навукоўцы і краязнаўцы Беларусі і Польшчы, якія вывучаюць гістарычныя, культурныя і экалагічныя пытанні Дзісеншчыны. Апрача пленарных пасяджэнняў, працавалі секцыі "Гісторыя і краязнаўства", "Культура, рэлігія, адукацыя".

Хочацца назваць некаторыя найбольш цікавыя выступленні навукоўцаў з Мінска: М. Спірыдонаў "Дзісеншчына ў крыніцах XVI ст.", Л. Акаловіч "Гісторыя шляхетных родаў землеўладальнікаў Дзісеншчыны", А. Грыцкевіч "С. Булак-Балаховіч -- военачальнік і палітычны дзеяч у 1918--1920 гады", Э. Зайкоўскі "Сляды язычніцкіх вераванняў у басейне ракі Дзісна", Я. Янушкевіч "Малая Радзіма ў творчасці В. Ластоўскага", В. Раманаў "Экалагічныя праблемы Мёрскага возера".

Вельмі актыўна выступілі навукоўцы з Гродна: В. Швед "Дзісенскі павет у паўстанні 1831 года", Г. Семянчук "Гісторыя Дзісеншчыны ў архівах г. Гродна", "Грунтовы магільнік ля вёскі Казлоўцы -- унікальны помнік археалогіі X-XII ст.", А. Майсяёнак "Я. Малецкі на цярністым шляху Адраджэння", "Пакроўская царква ў Стэфанполлі -- Дзісенская Георгіеўская царква (гісторыя і настаяцелі)", С. Сільвестрава "Асвета на Дзісеншчыне ў XVIII -- XIX ст.", Т. Маліноўская "Дзейнасць дамініканскага архітэктара Л. Грынкевіча на Дзісеншчыне" і іншыя.

З цікавасцю былі праслуханы выступленні гасцей з Польшчы, ураджэнцаў Дзісеншчыны: М. Вазгірд (Торунь) "Часопіс з Дзісны "Наш глос", Э. Забэла (Быдгошч) "Асвета на Дзісеншчыне ў XIX ст.", Я. Крыгзайзэн (Слупск) "З гісторыі мастацтва Дзісеншчыны", К. Кшэміньскі (Вроцлаў) "Д. Касаты -- паэт і грамадскі дзеяч з Дзісны".

Парадавалі сваімі змястоўнымі дакладамі і мясцовыя краязнаўцы: В. Ермалёнак (Мёры) "З гісторыі г. Мёры", Я. Бунто (Глыбокае) "З гісторыі Дзісенскага замка XVI--XVII ст.", У. Ляскоўскі (Шаркаўшчына) "Нашы землякі -- удзельнікі паўстання 1831 года", К. Шыдлоўскі (Браслаў) "Да лакалізацыі аднаго скарбу", В. Лапкоўскі (Мёры) "Страчаныя скарбы нашага краю", А. Пракоф'еў (Дворнае Сяло, Мёрскі раён) "...ыў вытворчасці людзей на прыро... ...ёршчыны" і іншыя. Усяго было пр...ытана каля 50 дакладаў.

Удзельнікі "Дзісенскіх чытанняў" пабывалі на экскурсіях у музеях г. Мёры, а таксама ў Лявонпалі, дзе глядзелі былы палац Лапацінскіх (1750 ... Тут зараз дзейнічае касцёл ...м адбылася Святая імша ў памяць славутых людзей Дзісеншчыны, якую адправіў на беларускай мове ксёндз-пробашч Мёрскага касцёла Уладас Пятрайціс.

Журналіст з ЗША Юрка Корчык, які прыехаў да сваякоў у Навагрудак, дазнаўшыся пра "Дзісенскія чытанні", завітаў у Мёры. Ён здымаў на відэакамеру ўсё, што бачыў найбольш цікавае і незвычайнае. Фатаграфаваліся на памяць ля палаца Лапацінскіх, калоны, узведзенай у гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года (сёлета калоне споўнілася 205 гадоў). Будзе што Ю. Корчыку паказаць беларусам Амерыкі аб сваім падарожжы па Беларусі.

У Лявонпальскім клубе адбылася сяброўская вечарына, на якой было выказана шмат добрых слоў аб дружбе і культурным супрацоўніцтве народаў Беларусі і Польшчы.

Матэрыялы "Дзісенскіх чытанняў" будуць выдадзены асобным зборнікам. Яны спатрэбяцца музеям, настаўнікам, увойдуць у кнігу "Памяць". Удзельнікі "Дзісенскіх чытанняў" выказваюць шчырую падзяку ўсім арганізатарам сустрэчы краязнаўцаў на Дзісеншчыне, а таксама ўладам Мёрскага раёна, якія падтрымалі правядзенне першай у рэгіёне краязнаўчай канферэнцыі. Асаблівая падзяка выкладчыку гісторыі Мёрскай сярэдняй школы N 3, кіраўніку школьнага музея і гуртка "Арганаўты мінулага" Вітольду Ермалёнку, які ўзяў на свае плечы асноўны цяжар працы па арганізацыі і правядзенню "Дзісенскіх чытанняў". Усе мы ўзбагаціліся новымі ведамі пра свой край, будзем доўга ўспамінаць цікавых людзей, з якімі пазнаёміліся тут, і будзем рыхтавацца да новай сустрэчы на дзісенскай зямлі.

**Кліменцій КОЖАН,**
**настаўнік Германавіцкай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна.**

НАЎЗДАГОН

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ ПРА АЛЕСЯ БУРБІСА

Алесь Бурбіс... 20 гадоў свайго жыцця ён прысвяціў самаадданай працы дзеля адраджэння і ўзвышэння роднага народа, які ён любіў аддана і бязмежна.

Асоба Алеся Бурбіса з яго кіпучым характарам, адвагай, вернасцю рэвалюцыйнай справе -- уражвае. Ён нібы спяшаўся жыць, прадчуваючы жорсткасць лёсу, які падорыць яму толькі 37 гадоў. Тыя, хто сустракаўся з Бурбісам, не м... не захапляцца ім. Нарыс пра А.Б...іса падрыхтаваў і Антон Луцкевіч. Працуючы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, я знайшоў рукапіс гэтага нарыса. Ён дазваляе вачыма аднаго з кіраўнікоў беларускага руху паглядзець на Алеся Лаўрэнавіча Бурбіса. Таму я палічыў важным дадаць да тэксту, што было надрукавана ў "Голасе Радзімы" (NN 24--27) пра Алеся Бурбіса, і погляд на яго асобу А.Луцкевіча. Вось што піша Антон Луцкевіч пра Алеся Бурбіса: "Бурбіс Аляксандр, сын Лаўрэна, нарадзіўся ў 80-ыя гады мінулага стагоддзя ў Вільні, дзе яго бацька быў на службе ў інтэнданцтве сапёрнага батальёна. Вучыўся Бурбіс у віленскай гімназіі, але не скончыў яе. Яшчэ на школьнай лаўцы сышоўся з групай радыкальнай моладзі, даволі блізкай да ППС (Партыя польскіх сацыялістаў), але настроенай "краёва". Тут пачынаецца і нацыянальнае самавызначэнне Бурбіса, якое аформілася канчаткова ў сувязі з заснаваннем Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады (1903 г.). Частка сяброў той краёва-радыкальнай групы, у якой Бурбіс пачаў супрацоўнічаць актыўна ў 1902 годзе, перайшла да Грамады, а з ёй і Бурбіс. У Грамадзе Бурбіс іграе чынную ролю -- на віленскім грунце. У Вільні, а таксама і ў Нова-Вілейцы -- ён разам з "Цёткай" (Алаізай Пашкевіч, пасля Кейрысавай) -- праце сярод вучнёўскай моладзі, распаўсюджвае рэвалюцыйную літаратуру, арганізоўвае беларускія рэвалюцыйныя гурткі. Асабліва чынны падчас рэвалюцыі 1905 года -- праце з віленскімі арганізацыямі L.S.D., Бунд, Р.С.Д.п., ППС Літвы. Выступае публічна -- на мітынгах.

Увосень 1905 года едзе ў Мінск на партыйны з'езд Грамады, як адзін з дэлегатаў віленскай групы Грамадоўцаў. На гэтым з'ездзе Бурбіс быў выбраны кандыдатам у сябры Цэнтральнага Камітэта Грамады, якая змяніла сваю назву на "Беларускую Сацыялістычную Грамаду".

У тым жа 1905 годзе Бурбіс адыграў паважную ролю ў яркім рэвалюцыйным выступленні ў Мейшаголах, пад Вільняй. Пры яго актыўным удзеле ў Мейшагольскай воласці была выбрана свая рэвалюцыйная валасная ўлада, а прадстаўнікі царскай улады паўцякалі. У Вільні ўзнялася трывога. Была паслана ў Мейшаголы вайсковая жандармерыя, якая сілай зброі "вярнула парадак". Бурбіс уцёк з Мейшагол і доўгі час хаваўся, але ўрэшце быў арыштаваны і асуджаны на 3 гады крэпасці. Кару адбываў у Вільні на "Лукішках". Да арышту Бурбіс нейкі час працаваў нелегальна ў Мінску ў складзе мясцовага камітэта Грамады.

Пасля выхаду з астрога -- ужо падчас чорнай рэакцыі -- Бурбіс зноў праце ў Вільні, але ўжо на грунце культурна-нацыянальным. У 1910 годзе яго нястомнай працай арганізуецца драматычная дружына, беларускі хор (пад кіраўніцтвам Л.М.Рогаўскага) і балет (пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага). Адбываюцца першыя ў Вільні беларускія спектаклі. З яго ж удзелам арганізуецца беларускі аб'езны (вандроўны) тэатр, які праце на працягу некалькіх гадоў -- да выбуху першай сусветнай вайны. У 1911 годзе Бурбіс прымае ўдзел у стварэнні ў Вільні "Беларускага музычна-драматычнага гуртка" і належыць да складу прэзідыуму яго.

Калі рускія войскі пакідалі Вільню (1915 г.), Бурбіс выехаў на ўсход як "бежанец" -- разам са сваёй жонкай (літвінкай). З моманту выбуху лютаўскай рэвалюцыі Бурбіс зноў актывізуецца, як левы грамадавец, і прымае чынны ўдзел у беларускай працы. Калі левае крыло Грамады пераўтварылася ў Камуністычную партыю Беларусі (КПБ), у апошнюю ўвайшоў і Бурбіс. Пасля "кастрычніка" і абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Бурбіс заняў адказнае становішча прадстаўніка ўрада БССР пры маскоўскім цэнтральным урадзе РСФСР.

Напружаная праца і розныя нягоды ў яго прыватным жыцці падарвалі здароўе Бурбіса, і без таго слабы з прычыны цяжкіх варункаў папярэдняга жыцця -- вечнай галоты, астрогу і г.д. ён пачаў хварэць на грудзі (туберкулёз) і ў 1922 годзе памёр у Маскве (на самай справе ў Мінску).

Адзначаўся Бурбіс надзвычай стойкасцю і энергіяй у працы, меў вялікія арганізатарскія здольнасці. Нягледзячы на прыналежнасць да КПБ, быў да канца жыцця абаронцам беларускай нацыянальнай справы і цвёрда стаяў у Маскве за Беларусь і яе інтарэсы.

Мінскія работнікі ўшанавалі памяць Аляксандра Бурбіса, назваўшы яго імем некалькі ўстаноў".

**Падрыхтаваў Мікалай БАНДАРЭНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСАЎ

* * *

У першай кніжцы Біблії ёсць прароцтва аб паходжанні народаў, іх родных моваў і культураў: "Была же естъ земля языку единаго и речи едностайное [...]. И рече единъ каждый ко другу своему: пойдемо и наделаймо плит и спалимо с огнемъ. И быша имъ плиты в каменя место й клеи в мелу место. И рекоша: подьте и вчинимо собе градъ и столпъ, его же верхъ да досягаеть до небеси. И вчинимъ славно имя наше, первей нежели разыйдемься по всехъ земляхъ. И ступилъ естъ Господь видети градъ и столпъ, еже чиниши сынове Адамовы. И рече: се едины суть людие й единостайный естъ языкъ всемъ. И почали суть сее делати й непрестануть от мышленей своихъ, доньдеже и деломъ не наполнять. Сего для пойдите ступьмо й смесимь тамъ языкъ ихъ, да не поразуметь каждый гласу ближнего своего. И тако разделилъ естъ ихъ Господь с того места по всехъ земляхъ. И престаша ставити градъ. И сего ради названо естъ имя граду тому Смешение (Вавилон), понеже ту смесился естъ языкъ всея земли и от толе розсеялъ е Господь по всехъ странахъ" (Быццё 11: 1--9).

Хрысціянская экзэгетыка пароснаму тлумачыць гэтае біблейскае паданне, у тым ліку ў натуральна-гістарычным сэнсе (спасылкі на адзіную першамову, наяўнасць эмпірычнага архетыпу Вавілонскай Вежы і да т. п.). У "Тлумачальнай Біблії" пад рэдакцыяй А. Лапухіна (1904) ёсць больш дакладная расшыфроўка фразы "и вчинимъ славно имя наше": "Узнімаючы такую каласальную вежу, -- пісаў каментатар, — будаўнікі хацелі паставіць помнік сваім выдатным здольнасцям і гэткім чынам абяссмерціць сваё імя ў вачах будучых пакаленняў. Мабыць, да гэтага далучаліся яшчэ іхнія ўладалюбівыя намеры: стварыць такі апорны пункт свайго панавання, адкуль было б зручна пашыраць сваю ўладу на па магчымасці найбольшую колькасць насельніцтва".

Архетып Вавілонскай Вежы — гэта сімвалічнае прароцтва пра ўсе былыя і будучыя імперыі, пачынаючы з шматэтнічнай Вавілонскай дзяржавы. Адзін з біблейскіх экзэгетаў наблізіўся да разгадкі гэтага сімвала, аднак тлумачыў яго толькі рэтраспектыўна, па-за вядомай усім гістарычнай перспектывай: "Раздзяленнем моваў і рассяленнем плямёнаў само сабою разбураліся богапраціўныя намеры, якія мелі сваёю мэтаю палітычнае аб'яднанне ўсіх плямёнаў пад валадарствам аднаго з іх, пры гэтым бязбожнага [...]. Калі б існавала сусветная сталіца як асяродак граху і распусты, і калі б запанавала ўсюды адна мова, тады ўвесь свет стаў бы тым, чым калісьці стала Хананская зямля, што мярзотамі сваімі вычарпала боскую доўгацярплівасць".

Хрысціянства прапанавала свой дабратворны шлях для ўсіх народаў, расцярушаных па зямлі. Шлях гэты вызначаны ў запавеце Ісуса Хрыста сваім вучням, у першы дзень свайго Уваскрасення: "Дык ідзіце, навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, навучаючы іх выконваць усё, што Я сказаў Вам; і вось Я з вамі ўва ўсе дні да скanчэння веку". А каб навучыць "вся языки" (народы), апосталы атрымалі вялікі духоўны дар у дзень Пяцідзесятніцы (Сёмухі): "І напоўніліся Духам Святым ды пачалі гаварыць іншымі мовамі, так, як Дух Святы даў ім прамаўляці [...]. І ўсе недаўмевалі і дзівіліся, кажучы адзін аднаму: Вось усе гэтыя, што гутараць, ці ж не галілейцы? Дык як жа мы чуем кожны сваю гаворку, у якой нарадзіліся...".

Хораша растлумачыў гэты шлях агульналюдскога жыцця ў шматгалоссі нацыянальных культур расійскі філосаф Уладзімір Салаўёў: "...Хрыстос уваскрос для ўсіх народаў і запаведаў вучням сваім: "Шедше, научите вся языки". Але хіба ж хрысціянства адмяняе нацыянальнасць? Не, бо захоўвае яе. Адмяняецца не нацыянальнасць, а нацыяналізм [...]. Народнасць, альбо нацыянальнасць, ёсць пазітыўная сіла, і кожны народ паводле самабытнага характару свайго закліканы для асаблівага служэння. Розныя народы ёсць розныя органы ў агульным целе чалавецтва [...]. Хрыстос, адмяняючы нацыяналізм, выратоўвае народы, таму што звышнароднае не ёсць безнароднае [...]. Узнесены на гэтую ступень, патрыятызм ёсць не супярэчнасць, а паўната асабістай маральнасці [...]. Хрысціянскі прынцып абавязку, альбо дабрадзейнага служэння, ёсць адзіна абгрунтаваны, адзіна пэўны і адзін толькі завершаны, альбо даскан[illegible] прынцып паліты[illegible] дзейнасці".

Хрысціянства прыйшло ў германа-раманскія і славяна-балцкія рэгіёны як спадчына грэка-рымскай культуры, і адпаведна цэрквы карыста[illegible] дзвюма сусветнымі мова[illegible] грэчаскай і лацінскай у якасці мовы літургіі і рэлігійнага асветніцтва. Але ж ад самага пачатку яно выявіла здольнасць да адаптацыі адносна этнанацыянальных асаблівасцяў усіх народаў. Хрысціянскія асветнікі Кірыла і Мяфодзій у другой палове IX стагоддзя падрыхтавалі славянскі свет для хрышчэння, фактычна ўзаконіўшы славянскую кніжную мову ў якасці мовы царкоўнай. Гэтай місіі садзейнічала тагачаснае іерархічнае і дагматычнае адзінства хрысціянства да яго фармальнага падзелу на праваслаўе і каталіцызм у 1054 годзе.

Пасля царкоўнага расколу праваслаўе паслужыла калыскаю духоўнага сталення беларусаў, фарміраванню беларускай народнасці, дзяржавы і культуры. На думку Міколы Ермаловіча, у наваградскі і віленскі перыяд станаўлення Вялікага Княства Літоўскага (XIII--XIV стагоддзі) трывала ўкаранёная на беларускіх землях праваслаўная царква забяспечыла крывічам, дрыгавічам і іншым беларускім народнасцям духоўную і геапалітычную перавагу над язычніцкімі ў сваёй большасці народнасцямі балцкімі (этнічнымі літоўцамі, яцвягамі і інш.), бо апошнія толькі далучаліся да хрысціянскай рэлігіі, пераважна ў яе каталіцкай канфесіі, якая яшчэ не паспела тады ўкараніцца ў гэтым рэгіёне. Можна гаварыць нават пра спецыфічнае раннехрысціянскае Адраджэнне старажытнай Беларусі, узгадаванае на аснове сінтэза творчых парываў маладога этнасу, хрысціянскага духоўнага падзвіжніцтва і прынесенай з Візантыі праз хрышчэнне вытанчанай эліністычнай культуры.

Жывым увасабленнем хрысціянскага подзвігу ў XII стагоддзі сталі беларускія асветнікі Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі. Полацкая князёўна Прадслава сапраўды праславіла ў хрысціянскім свеце свой беларуска-крывіцкі народ, узвялічыла ягоны прэстыж у тагачасным свеце будаўніцтвам слаўных манастыроў і храмаў, заснаваннем царкоўнай школкі і рукапіснага кнігавыдавецтва. Кірыла Тураўскі -- выдатны царкоўны паэт і аратар, духоўны асветнік свайго беларуска-дрыгавіцкага народа, вядомы ва ўсім праваслаўным свеце тэолаг, паводле слоў летапісца, наш Златауст, "паче всех просиявший на Руси". Да таго ж ён выступаў яшчэ дыпламатычным пасрэднікам паміж Кіеўскім і Уладзіміра-Суздальскім княствамі, імкнуўся па-хрысціянску паўплываць на князя Андрэя Багалюбскага, які двойчы (у 1169 і 1174) браў штурмам і аддаваў на рабаванне новую пасля Канстанцінопаля сталіцу праваслаўя Кіеў. Зусім магчыма, што "Прытча аб душы і целе", альбо "Пра сляпога і кульгавага", мела канкрэтнага адрасата -- уладзіміра-суздальскага князя, хоць, вядома, сэнс гэтага сімвалічнага твора выходзіў за рамкі лакальных гістарычных падзеяў і набыў значэнне архетыпу грэшных памкненняў і ўчынкаў наогул. Відавочна, што Кірыла Тураўскі — заснавальнік старабеларускай багаслоўскай школы, якую пазней развівалі Рыгор Цамблак, Францішак Скарына, Лаўрэнцій Зізаній, Мялеці Сматрыцкі, Сімяон Полацкі.

Заснавальнікі Вялікага Княства Літоўскага навагародскія князі Міндоўг (каля 1200--1263) і Войшлак (1223--1268) у сваёй дзейнасці па аб'яднанню беларуска-крывіцкіх і дрыгавіцкіх земляў і летапіснай Літвы (на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у басейне верхняга Нёмана) абапіраліся на падтрымку Праваслаўнай Царквы, і гэтым самым быў забяспечаны прыярытэт старадаўняй Беларусі ў дзяржаватворчасці. З гэтага часу і да канца XVII стагоддзя старабеларуская мова мела статус мовы дзяржаўнай і выконвала інтэграцыйную функцыю ў развіцці культуры і этнічнай самасвядомасці беларусаў. Гэтую ж палітыку дзяржаўнай "асіміляцыі" праваслаўнага хрысціянства як фактара стабільнасці беларуска-літоўскай дзяржавы працягвалі іх паслядоўнікі князі Гедымін, Альгерд і Вітаўт. У гады княжэння Вітаўта (1382--1430), Жыгімонта Кейстутавіча (1432--1440), Казіміра IV Ягелона (1440--1492) беларуска-літоўская і ўкраінская праваслаўная царква дабілася незалежнасці ад Маскоўскай мітраполіі і па сутнасці была беларускай ("рускай") верай.

Абапіраючыся на даследаванні гісторыкаў (А. Грыцкевіча, М. Ермаловіча, П. Лысенка, Г. Штыхава і інш.), можна зрабіць выснову: праваслаўная царква ў старадаўняй Беларусі X—XIII стагоддзяў, па сутнасці, была дзяржаўнай канфесіяй у Полацкім, Турава-Пінскім, Новагародскім княствах і ў Вялікім Княстве Літоўскім, а пазней, з XIV стагоддзя да Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 года і Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года, яна захавала сваё дамінуючае становішча сярод "рускага" (беларускага і ўкраінскага) насельніцтва беларуска-літоўскай дзяржавы. Мовай літургіі у праваслаўнай царкве па традыцыі заставалася царкоўнаславянская мова, а мова хрысціянскага (прапаведніцкага і кніжнага) асветніцтва -- старабеларуская мова. Будучы "кафалічнай" (сусветнай) па духу, яна стала беларускай у якасці духоўнага фактара станаўлення нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасвядомасці.

На думку даследчыкаў (А. Станкевіч), каталіцызм (хрысціянства рымскай дагматыкі і лацінскага абраду) прыйшоў у Беларусь у XIII стагоддзі, тады ж узніклі касцёлы і каталіцкія манастыры ў Смаленску, Полацку, Навагрaдку і іншых гарадах. Паводле польскага даследчыка Е. Ахманьскага, з 1383 да 1553 года ў Віленскай епархіі (усходняя частка суч[illegible]ай Літвы і заходнебела[illegible]я землі, апрача Брэста і [illegible]нска) было пабудавана 259 касцёлаў, з іх 93 -- у беларускіх паветах. Але да канца XVI стагоддзя яны яшчэ былі духоўным сімвалам пальшчызны. [illegible] думку А. Станкевіча, "лацінскае хрысціянства было часта апорай беларускай нацыянальнасці", найперш дзякуючы сваёй кананічнай залежнасці ад Апостальскай Сталіцы, па сутнасці "наднацыянальнай і не звязанай нацыянальна з ніякай дзяржавай". Наяўнасць беларускай царкоўна-каталіцкай літаратуры кірыліцай і латынікай (Катэхізіс 1585 года, пераклады літургічных тэкстаў па-беларуску), перавага ксяндзоў-беларусаў у беларускіх прыходах, царкоўнае асветніцтва на беларускай мове сведчаць, што каталіцкі касцёл да сярэдзіны XVII стагоддзя ўпісваўся ў беларускую культурную традыцыю і заставаўся фактарам узгадавання беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

Кнігавыдавецкая і асветніцкая дзейнасць Ф. Скарыны, які выдаў першую ва ўсходнеславянскім рэгіёне навукова-папулярную Біблію на роднай мове беларусаў, зборнік новазапаветных кніг "Апостал" (Вільня, 1525) і "Малую падарожную кніжку" (Вільня, каля 1522), у якую ўвайшлі Псалтыр, Часасловец (тэксты малітваў дзённай і вячэрняй праваслаўных царкоўных службаў, каноны і акафісты, у тым ліку напісаныя Ф. Скарынаю), засведчылі пра духоўна-творчую місію хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў сярэднявечнай і рэнесанснай эпохаў. Спадчына беларускага асветніка і першадрукара даследавалася галоўным чынам у аспекце станаўлення рэнесанснай культуры і гуманістычнага светапогляду ў гэтым рэгіёне. У найбольш поўнай Скарынавай бібліяграфіі, выдадзенай Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку (1989), даследаванні тэалагічных праблем ягонай творчасці, яе ўплыву на "беларускую адаптацыю" хрысціянскай царквы, займаюць больш чым сціплае месца. Свецкія даследчыкі ў былой БССР без належнай аргументацыі спрачаліся пра канфесійную прыналежнасць Ф. Скарыны, а багасловы "не ўпісалі" яго ў гісторыю беларускай царквы, якая, дарэчы, яшчэ не напісана.

Неабходна ўлічыць два аспекты творчасці Ф. Скарыны як фактара этнічнай і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў: канкрэтна гістарычны, абмежаваны храналагічнымі рамкамі яго эпохі (XVI -- пачатак XVII), і спрадвечны, які выходзіць за гэтыя рамкі і сягае ў нашую сучаснасць. У першым выпадку ён забяспечыў сваёй айчыне (Літоўскай Русі, паводле тагачаснага этнічнага самаўсведамлення) прыярытэт выдання першай ва ўсходнеславянскім рэгіёне Біблії на мове свайго народа і гэтым самым "упісаў" Святое Пісанне ў кантэкст развіцця нацыянальнай культуры. У больш шырокім, агульнагістарычным плане Ф. Скарына аказаўся прарокам беларускай нацыянальнай ідэі, сутнасць якой, паводле І. Абдзіраловіча (Канчэўскага), ва ўсведамленні таго, што "толькі праз развіццё асабістага і народнага духу дойдзем мы да ўсечалавечага ідэалу". Праз гэтую ідэю Ф. Скарына бачыцца ў якасці прававобраза беларускага нацыянальнага адраджэнца. "Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці католік, ці праваслаўны, і пэўна, што і той і другі разам, -- адзначыў той жа Канчэўскі, -- адбівае гэтае з'явішча беларускага духу ў індывідуальнасці, у душы нашага першага інтэлігента. Гэтую рысу беларуская народная інтэлігенцыя захавала і да нашай пары..."

У спецыфічна царкоўным сэнсе Ф. Скарына быў пачынальнікам самабытнай беларускай багаслоўскай думкі. Яе галоўныя прыкметы -- асветніцтва, арыентацыя на "народ просты, паспаліты", на талерантнасць, нацэленасць на агульнахрысціянскія каштоўнасці, урэшце, спецыфічны для беларускай культуры сацыяльна-этнічны акцэнт. Выкарыстаўшы як "усходнія" (грэка-візантыйскія і старaславянскія) ды "заходнія" (лацінскія і, магчыма, пратэстанцкія) крыніцы, беларускі асветнік нідзе не аддае перавагі ні праваслаўю, ні каталіцызму, але затое падкрэслівае сваю вернасць агульнахрысціянскім дагматам, Святому Пісанню і Паданню. Ягоны каментар да Біблії мае пэўныя прыкметы агульнахрысціянскага катэхізісу без якіх-небудзь акцэнтаў на карысць пэўнай канфесіі. Ёсць падставы меркаваць, што Ф. Скарына быў папярэднікам уніяцкага царкоўнага руху як спецыфічна беларускага рэлігійнага вопыту.

Гэтыя Скарынавыя змест і стыль беларускай багаслоўскай думкі з яе арыентаванасцю на беларускае і — шырэй — "рускае" (уключаючы рэгіёны Украіны і, па магчымасці, Вялікага Маскоўскага Княства — ядра будучай Расіі) асветніцтва характэрнае для паслядоўнікаў нашага першадрукара трох хрысціянскіх канфесіяў у Беларусі XVI—XVII стагоддзяў — праваслаўя, уніяцтва і пратэстантызму.

Творчасць праваслаўных хрысціянскіх асветнікаў пазначана пошукамі самабытных формаў беларускага багаслоўя, і, відавочна, з гэтай прычыны ніхто з іх не быў прызнаны артадаксальным праваслаўем прамаскоўскага кірунку. Першым перажыў сваё аўта-дафэ (спаленне кніжак) Ф. Скарына. Большасць даследчыкаў пагаджаецца з гіпотэзай, паводле якой беларускі бібліст каля 1525--1533 гадоў наведаў Маскву з культурна-асветніцкай місіяй і меў намер распаўсюджваць там свае выданні біблейскіх кніг.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 29.**

